№ 85 (3826)

29 кастрычніка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ІНІЦЫЯТЫВА

# У народа запытаемся?

Рух “За свабоду”, Партыя БНФ, кампанія “Гавары праўду!” вызначылі дзесяць пытанняў, якія найбольш хвалююць людзей і могуць быць вынесены на “Народны рэферэндум”. Праўда, гэта яшчэ не фінал, а паўфінал. Зараз пачынаецца абмеркаванне, у выніку якога павінна застацца пяць найбольш хвалюючых праблем, па якіх аўтары ініцыятывы будуць прапаноўваць уладзе параіцца з народам.

Спачатку кожная з палітычных сіл па выніках сустрэч са звычайнымі людзьмі і партыйнымі актывістамі склала свой спіс найбольш рэйтынгавых пытанняў. У выніку ва ўсіх трох спісах аказалася пытанне, якое тычыцца выбарнасці кіраўнікоў раённай, гарадской, абласной “вертыкалі”. Як высветлілася, беларусы хочуць самі абіраць мясцовую ўладу — так, як гэта робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах.

Гэтаксама ва ўсіх трох спісах аказалася прапанова вынесці на рэферэндум пытанне аб вяртанні ў Канстытуцыю былой нормы, якая абмяжоўвае абранне адной асобы на пасаду прэзідэнта двума тэрмінамі.

Акрамя гэтага, ініцыятары “Народнага рэферэндуму” прапануюць вынесці на ўсенароднае абмеркаванне пытанне, якое тычыцца ўзаемаадносін з Еўрасаюзам. Праўда, Партыя БНФ прапануе даведацца, ці падтрымлівае большасць жыхароў Беларусі дзеянні, накіраваныя на падпісанне Рэспублікай Беларусь дамовы аб стварэнні “глыбокай і ўсёабдымнай” зоны свабоднага гандлю паміж Беларуссю і ЕС. “Гавары праўду!” прапануе пацікавіцца, ці трэба ў мэтах нармалізацыі адносін з Еўрасаюзам заключыць пагадненне аб зоне свабоднага гандлю з ЕС, падпісаць пагадненне аб памяншэнні кошту шэнгенскіх віз і спрашчэнні парадку іх выдачы, а таксама адмяніць плату за ўязныя візы ў Беларусь для грамадзян ЕС. Рух “За Свабоду” лічыць неабходным высветліць, ці згодны грамадзяне з тым, што Беларусь “павінна ўзяць курс на далучэнне да Еўрасаюза”. У выніку абмеркавання павінен быць абраны нейкі адзін варыянт фармулёўкі пытання, якое будзе тычыцца ўзаемаадносін Беларусі і ЕС.

Акрамя гэтых трох блокаў праблем, у спісе таксама пытанні, якія тычацца рэформы судовай сістэмы, выбарчага заканадаўства, сацыяльных гарантый у сферы аховы здароўя і адукацыі. Ёсць і пытанне пра права ўласнасці на зямлю. Зараз адточваюцца фармулёўкі, пасля чаго пачнуцца сустрэчы і кансультацыі, якія дазволяць скараціць вялікі спіс да пяці пытанняў. Ініцыятары кампаніі плануюць зрабіць гэта на працягу двух тыдняў. Пасля чаго пачнецца збор подпісаў тых, хто падтрымлівае ініцыятыву.

**Да ведама**: па беларускім заканадаўстве, пад ініцыятывай аб правядзенні рэферэндуму трэба сабраць 450 тысяч подпісаў. Ініцыятары кампаніі абяцаюць гэта зрабіць.

МЕРКАВАННЕ СКЕПТЫКА

*Уладзімір МАЦКЕВІЧ, палітолаг:*

“Народны рэферэндум” — поўнае глупства. Падман тых, хто ў яго ўцягваецца, крадзеж іх сіл і часу. Удзел у любых выбарах, якія арганізуюцца Аляксандрам Лукашэнкам, таксама глупства. Усім відавочна, як гэтымі “выбарамі” дураць народ, і саўдзел у гэтым злачынны. Рэферэндум — гэта тыя ж выбары”.

МЕРКАВАННЕ АПТЫМІСТА

*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, палітолаг:*

“Паводле задумы, “Народны рэферэндум” — гэта якраз-такі спроба навязаць уладам сваю гульню, прычым на поле рэжыму. У прынцыпе, “Народны рэферэндум” — гэта метафара: ініцыятары выдатна разумеюць, што шанцаў на правядзенне плебісцыту няма. А калі нават спадзявацца на немагчымае, то вядома, хто і як у нас лічыць галасы. Але “фішка” ў тым, каб публічна ставіць пытанні, на якія ва ўлады няма пераканаўчых адказаў. Іншая справа, наколькі гэта атрымаецца?”

**Алег СНОЎ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## *Выключыць аўтаматычна!*

Розную лухту расказвала афіцыйная прапаганда пра незарэгістраваную арганізацыю “Малады фронт”. То наркаманамі рабілі маладзёжных актывістаў, то п’яніцамі. Між тым да маральных прынцыпаў гэтых хлопцаў і дзяўчат членам БРСМ трэба яшчэ дацягнуцца.

На з’ездзе, які прайшоў у мінулыя выхадныя, маладафронтаўцы прынялі беспрэцэдэнтную для беларускага палітычнага асяродка рэзалюцыю аб каштоўнасным падмурку арганізацыі. Дэлегаты зацвердзілі, што дзейнасць “Маладога фронту” несумяшчальная з прапагандай ідэй, якія супярэчаць нацыянальным і хрысціянскім каштоўнасцям: таталітарных ідэалогій (камунізму, фашызму) ці маральнай разбэшчанасці (п’янства, наркаманіі, педафіліі, гомасексуалізму). Вырашана, што актывіст, які прапагандуе падобныя ідэі, будзе аўтаматычна губляць сяброўства ў арганізацыі.

Гэтае пытанне, дарэчы, нават не выклікала ніякіх спрэчак. А вось з новым кіраўніцтвам вызначыцца аказалася не так проста. Спатрэбіцца збірацца на другую сесію з’езда, каб канчаткова вырашыць гэтае пытанне.

На дадзены момант абрана трое сустаршынь: былы палітзняволены **Зміцер Дашкевіч**, цяперашні палітзняволены **Эдуард Лобаў**, а таксама менш вядомы актывіст **Андрусь Цянюта**. Чацвёртае месца засталося вакантным.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

СТОП-КАДР



## *У Беларусі пачалася ўборка журавін*

У ААТ “Палескія журавіны” вырошчваюць розныя гатункі, некаторыя гучаць па-замежнаму незразумела: “Стывенс”, “Макфарлін”, “Кроўлі”... Ад журавіны балотнай тутэйшыя ягады адрозніваюцца буйнымі памерамі (2—2,5 см) і адсутнасцю паху ціны. На журавінах можна зарабляць валюту. Палескія ягады купляюць Расія, Англія, Польшча, краіны Балтыі, Казахстан, Галандыя і іншыя.

**Фота onliner.by**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Баўмгертнер застаецца ў Мінску

Тэрмін расследавання ў дачыненні да кіраўніка “Уралкалия” Уладзіслава Баўмгертнера і іншых фігурантаў крымінальнай справы працягнуты на два месяцы. Мера стрымання ў дачыненні да Баўмгертнера засталася ранейшай — дамашні арышт.

Як вядома, Следчы камітэт Беларусі аб’явіў пра расследаванне распачатых Генеральнай пракуратурай спраў на падставе ч.3 арт.424 КК (злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі) у дачыненні да службовых асоб ЗАТ “Беларуская калійная кампанія”: старшыні назіральнага савета Уладзіслава Баўмгертнера (*ён быў затрыманы ў Мінску ў той жа дзень. —* **БелаПАН.**), члена назіральнага савета Алега Пятрова, першага намесніка генеральнага дырэктара Канстанціна Саладоўнікава, намесніка генеральнага дырэктара па фінансах Ігара Яўстратава, начальніка фрахтовага аддзела Дзмітрыя Самойлава і іншых. Баўмгертнер утрымліваецца ў Мінску пад дамашнім арыштам, астатнія фігуранты аб’яўлены ў вышук.

21 кастрычніка на сустрэчы з кіраўнікамі СМІ краін СНД Аляксандр Лукашэнка абмовіўся, што Баўмгертнер абвінавачваецца ў крадзяжы. *“Не ўсё там проста. Праз швейцарскую кампанію прадавалі калійныя ўгнаенні, цану адну паказвалі, дапусцім, 350 долараў, прадавалі па 400 долараў, а розніцу дзялілі. Ужо некалькі эпізодаў такіх, тут ужо не выкруцішся”,* — сказаў Лукашэнка, дадаўшы, што такім чынам абвінавачанне было перакваліфікавана на крадзеж.

Лукашэнка таксама заявіў, што Баўмгертнер можа быць перададзены Расіі пасля кампенсацыі ўрону.

Раней СК паведамляў, што супрацьпраўныя дзеянні Баўмгертнера і шэрагу іншых топ-менеджараў ЗАТ “Беларуская калійная кампанія” нанеслі ўрон да 100 млн долараў. Пазней прэс-сакратар Следчага камітэта Павел Траулька заявіў, што сума ўрону можа быць значна павялічана.

2 верасня Следчы камітэт Беларусі аб’явіў пра распачынанне справы ў дачыненні да галоўнага акцыянера “Уралкалия” Сулеймана Керымава. Ён абвінавачваецца ў арганізацыі злоўжывання ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Керымаў абвешчаны ў міжнародны вышук.

25 кастрычніка расійскія СМІ паведамілі аб спробе супрацоўнікаў КДБ Беларусі захапіць у Маскве былога топ-менеджара Беларускай калійнай кампаніі. У адным варыянце размова ішла пра Дзмітрыя Самойлава, у другім — пра Ігара Яўстратава. Афіцыйнага пацвярджэння або абвяржэння гэтай інфармацыі ні з расійскага, ні з беларускага бакоў не было.

СТАТИСТИКА

## *По росту цен у Беларуси нет соперников*

На сайте Федеральной службы государственной статистики России появилась информация об индексах потребительских цен в РФ и зарубежных странах в январе—сентябре 2013 года. Беларусь по этому показателю обогнала более чем сорок стран и расположилась на первом месте.

За девять месяцев этого года цены в Беларуси увеличились на 10%. Такого роста нет ни в одной стране Европы. Даже в многострадальной Греции, например, они за это время не только не выросли, а упали на 1,2% (98,8% к декабрю 2012 года).

Уменьшились цифры на ценниках в Болгарии (98,7% к декабрю 2012 года), в Латвии (99,8%), Украине (99,4%), Грузии (99%).

**Топ-10 стран** с самым большим ростом цен за девять месяцев этого года выглядит так:

1. **Беларусь (+10%)**
2. Турция (+5%)
3. Россия (+4,7%)
4. Бразилия (+3,8%)
5. Мальта (+3,7%)
6. Казахстан (+3,3%)
7. Армения (+3,2%)
8. Эстония (+2,9%)
9. Таджикистан (+2,8%)
10. Молдова (+2,3%)

Что касается стран бывшего СССР, Беларусь уже несколько лет удерживает лидерство по росту цен. По итогам 2011 и 2012 годов наша страна тоже занимала первое место.

ЭКАНОМІКА

## *Экспарт нафтапрадуктаў абваліўся на 22%*

Беларусь у студзені—жніўні 2013 года экспартавала 10,1 млн тон нафтапрадуктаў, што на 22% менш у параўнанні з тым жа перыядам 2012 года.

Пра гэта гаворыцца ў матэрыялах Нацыянальнага статыстычнага камітэта краіны.

Па звестках ведамства, у студзені—жніўні бягучага года сярэднекантрактныя кошты экспарту нафтапрадуктаў склалі 758 долараў за тону, што на 9,8% менш у параўнанні з тым жа перыядам 2012 года.

Пры гэтым у краіны СНД было пастаўлена 3,3 млн тон нафтапрадуктаў (на 4,6% менш), у краіны далёкага замежжа — 6,8 млн тон (на 28,3% менш).

ТЫМ ЧАСАМ

## *КДБ наступае?*

Супрацоўнікі ААТ “Уралкалий” узяты пад ахову службай бяспекі кампаніі ў сувязі з пагрозай іх затрымання беларускім КДБ, паведаміла расійская газета “Известия” са спасылкай на неназваныя крыніцы ва “Уралкалии”.

Па звестках расійскага выдання, менеджары Беларускай калійнай кампаніі (БКК), супрацоўнікі “Уралкалия” **Канстанцін Саладоўнікаў**, **Ігар Яўстрацьеў** і **Дзмітрый Самойлаў**, якія маюць грамадзянства Расіі і жывуць у Маскве, у апошні час заўважылі за сабой назіранне. Каля іх дамоў з’явіліся машыны, у якіх кругласутачна знаходзяцца невядомыя мужчыны. За самімі менеджарамі і іх аўтамабілямі крочыць “хвост”. Калі служба бяспекі “Уралкалия” стала правяраць гэтую сітуацыю, высветлілася, што гэта беларускія спецслужбы.

У КДБ Беларусі гэтую інфармацыю абвяргаюць. *“Нават непрафесіяналу бачна абсурднасць інфармацыі, якую распаўсюджваюць”,* — адзначыў агенцтву “Інтэрфакс-Захад” начальнік прэс-службы КДБ **Артур Стрэх**.

ПАД ГРАДУСАМ

## *Бабіна лета працягваецца*

*На гэтым тыдні цёплае надвор’е захаваецца, прагназуюць сіноптыкі.*

*“Захаваецца павышаны тэмпературны рэжым, дажджоў будзе няшмат, у цэлым чакаецца спакойнае восеньскае надвор’е”,* — паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

У аўторак надвор’е будзе вызначацца малаактыўным франтальным падзелам. Днём ападкаў не чакаецца, тэмпература паветра плюс 12—17°С, па поўдні месцамі да плюс 19°С.

У сераду ноччу ў паўднёва-заходніх раёнах, а днём па паўднёва-ўсходняй палове краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература ноччу плюс 4—10°С, па поўдні месцамі да плюс 12°С, днём плюс 8—14°С.

*“У другой палове тыдня ўладу над надвор’ем возьме антыцыклон, сфарміраваны ў халаднаватай паветранай масе, тэмпература паветра крыху панізіцца, але ўсё адно будзе вышэй за норму на 3—4 градусы”,* — адзначыў Рабаў.

У чацвер без істотных ападкаў, днём у паўднёва-ўсходніх раёнах кароткачасовыя дажджы, ноччу і раніцай месцамі туман. Ноччу плюс 2—8°С, днём плюс 7—13°С.

У пятніцу без істотных ападкаў, ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Ноччу 0 — плюс 6°С, днём плюс 7—13°С.

У суботу ноччу месцамі кароткачасовыя дажджы, днём без істотных ападкаў, ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература ноччу плюс 1—7°С, днём плюс 8—12°С.

У нядзелю пераважна без ападкаў, днём па поўначы магчымы невялікі кароткачасовы дождж, ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература ноччу 0 — плюс 6°С, днём плюс 7—13°С.

УТРАТА



## *Умер польский политик Тадеуш Мазовецкий*

Первый премьер-министр посткоммунистической Польши Тадеуш Мазовецкий скончался в возрасте 86 лет.

В конце 1980-х годов он стал одним из главных инициаторов переговоров за “круглым столом” между правящей Польской объединенной рабочей партией и оппозицией, возглавляемой движением “Солидарность”, по мирному переходу к демократической модели правления.

Победа “Солидарности” на выборах в 1989 году и формирование Мазовецким первого некоммунистического правительства Польши создали прецедент к свержению коммунистических режимов во всей Восточной Европе.

Мазовецкий возглавлял польское правительство в течение 15 месяцев. За полтора года работы правительства Мазовецкого в Польше были проведены фундаментальные политические и экономические реформы. Тадеуш Мазовецкий был активным сторонником вступления Польши в Европейский Союз.

Министр иностранных дел Польши Радослав Сикорский назвал его одним из отцов польской свободы и независимости.

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Сироты в банке

Жизнь то и дело подбрасывает доказательства истинности крылатой фразы “Благими намерениями вымощена дорога в ад”.

Вот, например, одно из недавних, казалось бы, благих начинаний наших чиновников. В Беларуси создан информационный портал Dadomu.by, на котором размещен Республиканский банк данных детей на усыновление. Его задача, как анонсировалось, — помочь детям-сиротам обрести семьи. Вряд ли кто-нибудь будет оспаривать гуманность идеи. Все дети мира хотят иметь родителей. И, казалось бы, можно наконец-то поприветствовать инициативу наших начальников от образования (а то на протяжении последних лет от многих их решений волосы дыбом вставали и у педагогов, и у родителей, и у детей).

Но при ближайшем рассмотрении все оказывается не так лучезарно. В банк данных включили всех сирот: и тех, кто живет в интернатах и детских домах, и тех, у кого уже есть семья — приемная. И нигде рядом с фотографиями малышей я не нашла информации о том, что ребенок воспитывается в приемной семье. Контактным лицом выступает либо детский дом, либо отдел образования, спорта и туризма райисполкома. То есть если найдутся желающие усыновить этого ребенка, то никто не будет интересоваться, хочет ли он покидать приемную семью, у приемных мамы и папы согласия спрашивать тоже не будут — с ними просто расторгнут договор и ребенка заберут. Как вещь, выданную напрокат.

Многие родители, в семьях которых есть приемные дети, небезосновательно считают, что портал создавался с конкретным расчетом: государство пытается в очередной раз решить свои проблемы, переложив их на плечи своих граждан — в данном случае тех, кто попытался облегчить жизнь маленьких сирот, взяв их в свои семьи.

Сегодня в Беларуси многие дети-сироты воспитываются в приемных семьях, кого-то взяли под опеку близкие родственники, кто-то растет в доме семейного типа. В детских домах и интернатах живут менее 25% сирот, остальные — в семьях. Но все эти дети все равно считаются сиротами (этот статус исчезает только в том случае, если ребенок усыновлен).

К слову, еще семь лет назад данная статистика выглядела совершенно иначе. В начале 2000-х годов именно государство задалось целью найти альтернативу традиционным детским домам и интернатам. Возникла идея приемного родительства. Причем государство всячески поощряло и стимулировало благие порывы: с приемными родителями заключается трудовой договор, им назначается зарплата за воспитание чужого ребенка. Сегодня это около 2—2,5 миллиона рублей. При этом на приемного ребенка выплачивается пособие (на данный момент 1 миллион 200 тысяч на школьника и 1 миллион 100 тысяч на дошкольника). И — что очень важно — взятый в приемную семью ребенок по достижении совершеннолетия имеет право на получение социального жилья. Многие приемные родители и не скрывают, что не усыновили, а стали для сироты приемными мамой и папой только для того, чтобы ребенок мог в будущем гарантированно получить отдельное жилье. Поэтому решение не усыновлять ребенка, как это ни парадоксально, чаще всего продиктовано интересами именно приемного сироты.

В социальных сетях началось эмоциональное обсуждение. Приемные родители возмущены, оскорблены, напуганы. Многие уверены: под благовидным предлогом государство решило сэкономить на детях-сиротах. И плевать, что щепки, которые будут лететь при рубке этого леса, — дети, по которым жизнь уже ударила наотмашь! Государству нужны деньги!

Ведь что получается: новая “гуманная” инициатива вынуждает приемных родителей усыновлять детей, которых они взяли на воспитание (ведь нельзя исключить, что в любой момент в дверь постучат и скажут: вашего ребенка хотят усыновить, мы его забираем). А значит, государство сэкономит не только на пособии на сироту и на зарплате приемной мамы, но и на квартире, которую обязано предоставить сироте, вступающему во взрослую жизнь.

В интернете читаю такой комментарий: *“За годы, прожитые вместе под одной крышей, и родители, и приемные дети одинаково прикипают друг к другу. Зачастую в приемных семьях есть свои биологические дети, и они тоже полюбили приемных братика или сестричку. Но если отношения не выстраиваются, никто не запрещает приемным родителям вернуть ребенка в детский дом или интернат. Не поверю, что кто-то станет насильно возиться с чужим ребенком, что приемных родителей держит “выгода” в 2 миллиона зарплаты и миллион пособия на сироту. И если приемный малыш живет в семье год, два, пять — значит, это уже одна семья. Отобрать его — это как по живому резать. Представляю, сколько семей, где живут сироты — особенно, если это маленькие детки (у подростков все же разрешения на усыновление спрашивать будут), побегут собирать документы на усыновление. Сколько же социального жилья в перспективе освободится”.*

В “Живом журнале” другая приемная мама пишет: “*Я понимаю, что эта тенденция будет иметь последствием потрясающую экономию бюджета. Сколько прекрасных однушек он станет НЕ ДОЛЖЕН. Но я не понимаю: зачем это сотрудникам центра усыновления? Государственное мышление? Не может быть, чтобы в таких масштабах... Скорее, для них тут из прямых плюсов — это резкое улучшение статистики по усыновлению, притом что на деле ничего не меняется: мой ребенок как был в моей семье, так и остался, а вот количество сирот в стране уменьшилось, что не может не радовать”.*

Эта мама не может поверить, что *“хорошая статистика важнее хороших условий для живых детей”.* По ее мнению, уничтожение удачной идеи приемного родительства — это слишком высокая плата за выгодную отчетность. Ведь тысячу раз подумают теперь те, кто готов был бы взять приемного ребенка.

Сайт Dadomu.by хоть и запущен, но до конца не систематизирован и, как указано на главной странице, “находится в разработке”. Остается еще призрачная надежда: может, еще раз обсудят, одумаются, пересмотрят... Ведь, по статистике, в стране почти 25% сирот живут без родительского тепла. И простая арифметика подсказывает: если в банке данных будут только они, вероятность усыновления для них увеличится в четыре раза.

ФОРУМ

# Каго лічыць палітвязнем...

*26—28 кастрычніка прадстаўнікі праваабарончых арганізацый Беларусі правялі ў Вільнюсе трэці Беларускі праваабарончы форум.*

Старшыня РПА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" **Алег Гулак** абнародаваў перад калегамі сенсацыйныя звесткі. Аказваецца, беларусы лічаць, што сітуацыя з правамі чалавека ў нашай краіне нават лепшая, чым у Еўропе і ЗША. Прычым гэта вынікі не афіцыйнага, а незалежнага апытання. Аўтаматычна паўстае пытанне: калі ўсё так добра, то ці мае сэнс праваабарончая дзейнасць?

Праваабаронцы ўпэўнены, што людзям задурыла галаву лукашэнкаўская прапаганда, расказваючы, якое дрэннае жыццё вакол нас і як усё добра ў Беларусі. Таму прапанова аб спыненні дзейнасці гучала толькі ў кулуарах. А на парадак дня вынеслі зусім іншыя абмеркаванні.

Дыскусію выклікала карэкціроўка паняцця "палітычны зняволены". Група праваабаронцаў паспрабавала вызначыць, хто можа прэтэндаваць на такі статус, а таксама сфармуляваць паняцці "палітвязень" і "вязень сумлення".

Калі коратка, то яны прапанавалі лічыць палітвязнямі тых, хто пазбаўлены волі з-за палітычных перакананняў, выказаных негвалтоўным чынам. Новыя фармулёўкі даюць падставы лічыць палітычным вязнем кожнага, у каго пры наяўнасці палітычных матываў пераследу было парушана права на справядлівае судовае разбіральніцтва, альбо мела месца фальсіфікацыя доказаў віны; альбо працягласць зняволення была значна большая за тое, якое прадугледжвае заканадаўства ў аналагічных выпадках. Праўда, калі нават пры гэтых умовах чалавек здзейсніў гвалтоўнае праваапарушэнне супраць асобы ці маёмасці (альбо заклікаў да такіх дзеянняў), то яго вязнем сумлення прапанавана не прызнаваць.

Гэтыя фармулёўкі выклікалі шмат пытанняў. Бо, строга кажучы, калі зыходзіць з іх, то праваабаронца Алесь Бяляцкі ці прадпрымальнік Мікола Аўтуховіч з'яўляюцца палітвязнямі, бо асуджаны па эканамічных артыкулах з парушэннем існуючага заканадаўства. А вось наконт Міколы Статкевіча нехта скажа: "Заклікаў не падпарадкоўвацца міліцыі, білі шыбы ў Доме ўрада", — і гэта ніякі не негвалтоўны супраціў. Анархісты — дык дакладна не падпадуць пад статус "палітвязняў": іх жа абвінавацілі ў падпале дзвярэй будынка КДБ, машыны расійскага пасольства...

Цяпер незразумела, ці змогуць беларускія праваабаронцы прызнаць ксяндза Уладзіслава Лазара вязнем сумлення, бо яны не могуць не тое што паглядзець матэрыялы справы, а нават паразмаўляць з адвакатамі, якія далі падпіску аб неразгалошванні таямніцы следства. А тое, што чалавек з лета сядзіць у СІЗА і гэта публічна нават не агалошваецца, па сутнасці ніхто дакладна не ведае, у чым яго абвінавачваюць, — як бы і не лічыцца пераследам па палітычных, рэлігійных альбо іншых матывах. Затое любы карупцыянер з чыноўнікаў, якога судзілі закрытым судом, можа прэтэндаваць на тое, каб лічыцца "палітычным", бо гвалту не чыніў, а вось адкрытага і, магчыма, справядлівага суда не заслужыў...

Карацей, атрымліваецца нейкая зусім незразумелая сітуацыя. Хаця нашы праваабаронцы сцвярджаюць, што яны не адкрывалі Амерыкі, а проста прывялі вызначэнні ў адпаведнасць з нормамі міжнародных праваабарончых арганізацый.

У выніку дакумент быў прыняты, хаця хутчэй за ўсё дыскусія па гэтым пытанні працягнецца.

III Беларускі праваабарончы форум прыняў адразу некалькі рэзалюцый з заклікам вызваліць палітзняволеных, спыніць дыскрымінацыю па палітычных матывах і ўвесці мараторый на смяротную кару.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## ДАРЭЧЫ

Што і казаць, у Беларусі не было ніякай унутрынацыянальнай масавай кампаніі з патрабаваннем вызваліць палітвязняў. У Беларусі ўзяў верх наступны падыход: маўляў, не мае сэнсу звяртацца да Аляксандра Лукашэнкі, бо ён на такія лісты грамадскасці проста не звяртае ўвагі.

Расійскія і ўкраінскія праваабаронцы дзейнічаюць зусім інакш. Вядомы расійскі праваабаронца Валянцін Гефтэр паведаміў, што грамадскія структуры гэтай краіны ўключаюць прозвішчы палітвязняў у спісы на памілаванне і падаюць іх на імя прэзідэнта.

Праваабаронцы Украіны сабралі дзясяткі тысяч подпісаў за вызваленне Юліі Цімашэнка, і гэты ціск грамадскасці, хутчэй за ўсё, прымусіць прэзідэнта Віктара Януковіча выпусціць Цімашэнка.

Тым не менш беларускія праваабаронцы не прызнаюць сваю тактыку памылковай.

ФОТАФАКТ



## Восем новых крыжоў

**На мінулыя выхадныя ў Курапатах актывісты аргкамітэта па стварэнні партыі БХД усталявалі 8 новых крыжоў. Яны з'явіліся з таго боку кальцавой дарогі, дзе раней крыжоў не было, — з боку горада. Раней крыжы стаялі толькі са знешняга боку кальца.**

**Як вядома, штогод на Дзяды праходзіць шэсце і жалобная цырымонія ў мемарыяле "Курапаты". Ці дадуць дазвол на правядзенне акцыі ў чарговы раз, стане вядома сёння на пасяджэнні Мінгарвыканкама. Пра гэта паведаміў сустаршыня Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ Юрась Беленькі.**

ВЕРСІЯ

# Альбо плаці падатак, альбо ідзі ў турму!

*З 2015 года адсутнасць дзейснага запісу ў працоўнай кніжцы можа каштаваць трох гадоў пазбаўлення волі.*

## Міф ці рэальнасць?

Пасля заяў чыноўнікаў аб тым, што тых, хто афіцыйна з'яўляецца беспрацоўным, але мае даходы "збоку", неабходна прымусіць плаціць падаткі, у інтэрнэце з'явіўся праект дакумента, які ўсхваляваў многіх. Праўда, пакуль не вядома, ці сапраўды ў Сеціва патрапілі копіі рэальнага праекта ўказа прэзідэнта, пастановы ўрада і рашэння Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Чыноўнікі не абвяргаюць факт існавання такіх папер, але адмаўляюцца ад каментарыяў.

Што ў іх хвалюючага? З 2015 года кожнага, хто не будзе мець афіцыйнага працаўладкавання, дзяржава прымусіць выплачваць 20 базавых велічынь у год (на сёння — 2 мільёны 600 тысяч рублёў). Плаціць падатак будуць грамадзяне ва ўзросце ад 18 да 55 (жанчыны) або 60 гадоў (мужчыны), якія больш за 6 месяцаў у каляндарным годзе *"не прымалі ўдзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты падаткаў, збораў і іншых плацяжоў"*. Вызвалены ад выплаты будуць толькі некаторыя беспрацоўныя: вайскоўцы, студэнты, пенсіянеры, маладыя мамы, якія атрымліваюць дзіцячую дапамогу, афіцыйныя беспрацоўныя, якія зарэгістраваны на біржы працы, зняволеныя, непрацаздольныя і гэтак далей.

Той, хто не трапляе ў катэгорыю "льготнікаў", у выпадку няўплаты адпаведнага падатку можа апынуцца за кратамі. І не на месяц, а на тры гады.

Міф гэта ці рэальнасць — пакажа час.

## Мы не рабы...

Згодна з дадзенымі, якія агучыў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, сёння ў Беларусі каля 450 тысяч беспрацоўных. Спецыялісты раяць павялічваць гэтую лічбу ў два, калі не ў тры разы. Не выключана, што беларускія ўлады разглядаюць увядзенне падатку на беспрацоўнасць як нескладаны спосаб запоўніць кадравыя дзіркі. Сёння па ўсёй краіне адчуваецца моцны недахоп будаўнікоў, медработнікаў, кіроўцаў, гандляроў, выхавацеляў, настаўнікаў. Ніхто не жадае ісці на мізэрны заробак. Не ўмееш — навучым, не хочаш — прымусім?

Да прыкладу: сталічная 22-я паліклініка шукае акушэра на заробак у мільён 890 тысяч рублёў, а Навукова-даследчы інстытут фізкультуры і спорту хацеў бы знайсці сістэмнага адміністратара з вышэйшай адукацыяй на зарплату мільён 400 тысяч рублёў. У рэгіёнах сітуацыя не лепшая — вакансій шмат, але людзі не жадаюць ісці на работу за жабрацкія грошы. Для тысяч беларусаў прасцей перабівацца часовымі заробкамі, чым з 9 да 18 гарбаціцца за суму, якую толькі ўмоўна можна назваць зарплатай.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ДАСЛОЎНА

## Важкае слова манаха

У Мінскіх духоўных семінарыі і акадэміі прайшла сустрэча-лекцыя аб значэнні беларускай мовы ў сучасным Праваслаўі. Са студэнтамі і выкладчыкамі духоўных школ асабістым досведам падзяліўся вядомы паэт, музыкант, грамадскі дзеяч манах **Мікалай Бембель**.

У сваім выступленні манах Мікалай адзначыў:

*— Калі заходзіць палеміка з прадстаўнікамі каталіцкага веравызнання па пытаннях мовы, то гавораць, што Праваслаўная царква супраць беларускай мовы. Доказаў гэтаму не патрэбна: сваім маўленнем па-расійску праваслаўныя пацвярджаюць, што яны нібыта ігнаруюць беларускую мову, грэбуюць ёй. Таму задача кожнага беларуса не толькі любіць, але і ўжываць яе ў сваім паўсядзённым жыцці. Тады мы не толькі не згубімся ў сусветнай прасторы, але і будзем сведкамі сапраўднасці нашай веры.*

КТО ЕСТЬ КТО

# В гонку за «Уралкалий» включились белорусы

*Авторитетное мировое агентство бизнес-информации Bloomberg со ссылкой на свои источники сообщило, что в гонку за оказавшийся в центре российско-белорусского скандала "Уралкалий" включился бизнесмен с белорусскими корнями Алексей Хотин. Имя мало известное в самой Беларуси. Потому расскажем о нем подробнее.*

## Под грифом секретности



Бизнес Алексей Хотин ведет вместе со своим отцом Юрием, оба при этом всячески стараются избегать публичности. Forbes и "Ведомости", проводившие расследование их деятельности с разницей в год, отмечали, что Хотины предпринимают немало усилий, чтобы оставаться в тени. Тем не менее оценить примерные масштабы их деятельности все же можно.

В случае покупки доли в "Уралкалии" производство калийных удобрений станет третьим крупным бизнесом семьи Хотиных. До этого (в конце марта 2013 года) Хотины приобрели у Сбербанка Дулисьминское нефтяное месторождение в Иркутской области за 2,835 миллиарда рублей. Однако основным их бизнесом считается недвижимость в Москве.

Согласно оценке Forbes на февраль 2012 года, сын и отец Хотины контролируют 1,8 миллиона кв. метров офисных и торговых площадей. Газета "Ведомости" в апреле 2013 года дала другую оценку — 2,1 миллиона кв. метров.

Среди объектов недвижимости, контролируемых Хотиными, мало новостроек. Их стратегия заключается в скупке зданий заводов и НИИ, их ремонте и последующей сдаче в аренду. "Ведомости", изучив регистрационные и судебные базы, поговорив с банкирами и брокерами, насчитали почти 40 объектов, в том числе знаменитый торговый центр "Горбушкин двор".

При этом Хотины напрямую не владеют своими активами — используют различные юрлица, владельцами которых значатся другие люди. "У них много юрлиц, каждое занимается набором зданий, и все очень закрыты", — рассказал "Ведомостям" консультант по недвижимости.

При этом интересно, что средства на покупку недвижимости Хотины получали у банков, оформляя кредиты под залог своих объектов. Для такого "бизнеса" надо иметь очень хорошие связи.

## Начинали с химии

Изначально Хотины занимались в Беларуси производством косметики и бытовой химии — Юрий Хотин руководил фирмой "Белкосмекс". В середине 1990-х они перебрались в Москву, арендовали помещение на территории мясокомбината им.Микояна и продолжили производить бытовую химию. В 1998 году комбинат обанкротился, а Хотины за бесценок купили на торгах один из корпусов завода. Как отмечал собеседник "Ведомостей", после этой сделки Хотиных, вероятно, и заинтересовала скупка недвижимости обанкротившихся компаний.

В ряде случаев, как пишут Forbes и "Ведомости", Хотины не ждали, пока компания обанкротится сама, а переходили к активным действиям, меняя руководство предприятий. Так, например, произошло с Московским мыловаренным заводом (ММЗ), компанией "Игелснаб", ОАО "НТЦ "Содружество МВД РФ". Владелец последней — ветеран МВД Дмитрий Михайловский — провел под стражей два года, пытаясь оспаривать действия "захватчиков".

## Под чьим крылом?

Один из собеседников Forbes отмечал, что у Хотиных может быть высокопоставленный покровитель в лице одного из лидеров партии "Справедливая Россия" Сергея Миронова, ранее занимавшего пост председателя Совета Федерации. В распоряжении журнала есть визитная карточка Алексея Хотина, на которой указано, что он советник председателя Совета Федерации Сергея Миронова (сотрудник секретариата аппарата Совета Федерации подтвердил Forbes, что Хотин был советником Миронова).

Сам Миронов заявил Forbes, что Юрия Хотина он не знает, а Алексей Хотин принимал участие в некоторых экспертных мероприятиях, которые проводились в рамках Совета Федерации.

Имя Алексея Хотина связывают также и с Еленой Батуриной — женой экс-мэра Москвы Юрия Лужкова. Бывший владелец ММЗ Михаил Завертяев рассказал Forbes, что Алексей Хотин открыто заявлял ему, что действует по поручению Елены Батуриной.

ОПРОС

# Качнуло в сторону Востока

После открытия Дворца Независимости споры об архитектурных экспериментах в столице вспыхнули с новой силой. Одним новоделы категорически не нравятся, другие призывают не бояться экспериментов и не цепляться памятью за "старый Минск". Мы решили в ходе своего небольшого блиц-опроса выяснить, каково мнение на сей счет минчан и гостей столицы. Вопрос задавался простой: какое из зданий украшает Минск, а какое, на ваш взгляд, его портит?

## Самое красивое здание Минска

Неоспоримым лидером оказался костел Святых Симеона и Елены, более известный как Красный костел. Мнения были приблизительно такими.

**Дмитрий, временно безработный, уличный музыкант:** "Самое красивое здание в Минске — это Красный костел. Именно он, на мой взгляд, является визитной карточкой города. Такого точно больше нигде нет".

**Виктория Савчук:** "Я тут у вас в гостях. Мы с мужем приехали из Архангельска к его родственникам. В Минске я впервые. Увидела уже многое, но больше всего меня поразил ваш Красный костел. Он такой большой, создается впечатление, что его башни тянутся к небу, возле здания своя атмосфера, не сравнимая ни с чем".

**Виктория Невярович, продавец магазина "Соседи":** "Каждый день я прохожу около Красного костела, когда иду на работу. Если есть время, даже захожу в него. На мой взгляд, это здание — символ веры всех католиков Беларуси".

**Александр Малуха, врач 4-й Городской клинической больницы:** "Во время Второй мировой почти весь Минск был разрушен, а вот Красный костел уцелел. Это одно из немногих старинных зданий в городе. Этим оно и притягивает, наверное".

### В БЛОКНОТ

*Строительство Красного костела началось еще в 1905 году под руководством минского дворянина Эдварда Войниловича. Он решил построить этот костел в память о своих рано умерших детях Симеоне и Елене. В 1908 году основные строительные работы были завершены, а в 1910 году храм был освящен. Но костел выполнял свои главные функции недолго. В 1923 году почти все храмовые ценности были экспроприированы, а в 1932 году он был окончательно закрыт. В связи с историческими событиями в костеле в разные времена размещались и киностудия, и Дом кино Союза кинематографистов БССР, а также Музей истории белорусского кино. В советское время здание подверглось незначительной перестройке, а вся живопись в интерьере была закрашена. В 1990 году костел Святых Симеона и Елены был возвращен католической церкви. В ходе реставрационных работ были расчищены и восстановлены некоторые росписи. В 1996 году у костела была установлена скульптура Архангела Михаила, пронзающего змея, а в 2000 году был установлен памятник "Колокол Нагасаки". С того времени костел стал таким, каким мы видим его сегодня.*



## Самое некрасивое здание Минска

Чаще всего в этой категории наши респонденты называли Дворец Республики.

**Анна Козел:** "Я студентка, сама из Могилевской области. Учусь в Минске уже третий год. И, естественно, как и многие студенты, когда приехала в Минск, старалась рассмотреть город вдоль и поперек. Дворец Республики, само собой, видела много раз, но никогда не была внутри. Когда меня пригласили сходить туда на концерт Сергея Безрукова, я очень обрадовалась. Но, оказавшись внутри, была разочарована (думаю, как и Безруков). Так как это здание абсолютно не приспособлено к приезду знаменитых гостей, а сцена и вовсе не была готова к мероприятию такого масштаба".

**Марина Борейша, в настоящее время в декретном отпуске:** "На мой взгляд, самым некрасивым зданием в Минске является Дворец Республики. Это громоздкое, огромное здание не вписывается в архитектуру города, выбивается из ансамбля зданий Октябрьской площади. В общем, восхищения не вызывает. И, на мой взгляд, абсолютно не отвечает тем требованиям, которые возложены на строение такого типа".

**Игорь Шахлевич, фельдшер "скорой помощи":** "У этого здания плохая аура. Вспомните последние события, которые происходи около него... Вот и не люблю".



*Дворец Республики был открыт только 31 декабря 2001 года. До сих пор он принимает большое количество знаменитостей и почему-то не особо радует глаз обывателя.*

### В БЛОКНОТ

*О том, что необходимо построить этот дворец, заговорили еще в начале 1980-х, но к строительству приступили только в 1985 году. Однако распад СССР, а следовательно, и ухудшение экономической ситуации в стране привели к фактическому замораживанию строительства.*

## Что рассказывают о новом Дворце Независимости те, кто уже побывал внутри?

Вот рассказ корреспондента "Известий" Егора Созаьева-Гурьева: "Внутри все здание отделано мрамором, войдя через главный вход, попадаешь в огромный коридор, на стенах висят два больших государственных герба Беларуси. Внутри здания выставлен почетный караул, а сотрудники службы безопасности президента Республики Беларусь одеты в парадную форму. Удивили журналистов и меры безопасности. Доступ в интернет можно получить, только предоставив паспортные данные. Когда корреспонденты проходили проверку, их, не таясь, фотографировали сотрудники госбезопасности".

"Новый Дворец Независимости в Минске похож одновременно и на такой же дворец в Астане, и в Ашхабаде тоже. Размерами, формами, убранством и особенно амбициями. Президента Беларуси неожиданно качнуло в сторону Востока (с другой стороны, ведь не в сторону же Запада ему качаться)", — иронизирует корреспондент "Коммерсанта" Андрей Колесников.

**Марта МАХУН.**

КАЛЬКУЛЯТОР

## В Беларуси заметно подорожали услуги ГАИ

Постановлением Минэкономики значительно повышены тарифы на услуги (работы), оказываемые (выполняемые) Государственной автомобильной инспекцией Министерства внутренних дел Республики Беларусь.

Так, выдача копий документов, послуживших основанием для совершения регистрационных действий в отношении транспортного средства, составит 15.000 за штуку (рост в 3 раза), копий материалов дела об административном правонарушении — 20.000 за единицу (рост в 6,7 раза).

Сопровождение автомобилем ГАИ тяжеловесных и (или) крупногабаритных транспортных средств, опасных грузов при их перевозке до 10 километров включительно составит 75.000 рублей (тариф увеличен в 3,7 раза), до 20 километров включительно — 115.000 (в 3,8 раза), свыше 20 километров — 150.000 (в 3,7 раза).

Согласование содержания информации на бумажных (книги, брошюры, плакаты, иная печатная продукция) и электронных носителях, затрагивающей сферу обеспечения безопасности дорожного движения, составит 60.000 за один печатный листок (тариф увеличен в 4 раза).

Повышен ряд тарифов, которые приведут к очередному удорожанию обучения в автошколах.

Согласно документу, тариф за выезд сотрудника ГАИ для приема по месту расположения учебной организации квалификационного экзамена на право управления механическим транспортным средством повышен в 3 раза до 30.000 за час.

Час использования автодрома для обучения вождению (на автомобиле владельца) составит 9700 рублей (рост в 1,4 раза).

Участие сотрудника ГАИ в заседаниях приемочных комиссий и приемочных, квалификационных и других испытаниях транспортных средств, составных частей их конструкции и дополнительного оборудования составит 100.000 рублей за испытание (в 4,2 раза больше прежнего тарифа).

СІТУАЦЫЯ

## Школа на радзіме Анатоля Сыса адмовілася ўшанаваць памяць паэта

У вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна прайшло традыцыйнае ўжо свята паэзіі "Дух — гэта, людзі, я!" у гонар паэта Анатоля Сыса, якому сёлета споўнілася б 54 гады.

Імпрэзу планавалася правесці ў Броненскай школе, якую скончыў Анатоль Сыс. Але за некалькі дзён да мерапрыемства адміністрацыя школы адмовілася ад яе правядзення. "Напэўна, перастрахаваліся", — адзначыў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч.

Свята паэзіі пачалося з ускладання кветак на магілу паэта, а потым працягнулася ў двары дома, дзе ён нарадзіўся і жыў. З часам у гэтым будынку плануецца адкрыць дом-музей, таму ўжо цяпер збіраюцца экспанаты: здымкі ды кнігі паэта, успаміны пра яго, рэчы, звязаныя з ягоным жыццём і творчасцю.

### Да ведама

Анатоль Сыс нарадзіўся 26 кастрычніка 1959 года ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Быў найменшым з чатырох дзяцей у сям'і Марыі і Ціхана Сысоў.

Падчас навучання ў школе Анатоль Сыс захапляўся літаратурай і гісторыяй, асабліва цікавіўся раскопкамі старажытнага гарадзішча ў Гарошкаве. У 1977 годзе ён паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф.Скарыны, які скончыў у 1982 годзе. Пасля двухгадовай службы ў войску працаваў у Веткаўскай раённай газеце "Перамога Кастрычніка". У 1985 годзе Сыс пераехаў у Мінск, дзе працаваў на Беларускім тэлебачанні.

Памёр 4 мая 2005 года ў сваёй мінскай кватэры ад сардэчнага прыступу. Пахаваны ў Гарошкаве. Сям'і ў паэта не было.

Свой першы верш па-беларуску Анатоль Сыс напісаў падчас навучання ў Броненскай сярэдняй школе, дзе, дарэчы, была руская мова навучання. У 1974 годзе дэбютныя творы Сыса былі надрукаваны ў рэчыцкай раённай газэце "Дняпровец". У 1986-м нізка вершаў Анатоля Сыса была надрукавана ў часопісе "Маладосць". Пры жыцці паэта выйшлі тры зборнікі ягоных вершаў.

У 1987 годзе Сыс быў сярод заснавальнікаў суполкі маладых пісьменнікаў "Тутэйшыя".

**Алена ДАВЫДАВА.**

КНИЖНЫЙ УГОЛ



*Семен БУКЧИН*

# Драма бывшего сына

Старый читатель, я давно уже не испытывал такого... Это когда же было, чтобы, начав читать повесть, роман, не отложил в сторону, чтобы продолжить позже. А тут не выпустил из рук, пока не дочитал до конца. Полдня, считай, ушло. По поводу реального объема текста ничего сказать не могу, поскольку он был мне прислан приятелем по интернету. И читал я его, сбросив предварительно на электронную книжку. Хотя отрывок из романа Саши Филипенко “Бывший сын” опубликован в престижном российском журнале “Сноб”, издан в Москве и замечен критикой. Но нынче интересующую тебя книгу достать не просто. Слава Богу, выручает пока интернет.

Так что за роман? А вот представьте себе Минск самого конца 1990-х и даже точнее — 1999 год. Не забыли, что случилось в этом ужасном году? Но прежде, чем это случится на трагической Немиге, герой романа Саши Филипенко Франциск (друзья, естественно, зовут его Циск) в курилке художественного лицея, в котором он учится на виолончелиста и из которого его готовятся отчислить за неважную успеваемость и длинный язык, ведет разговоры с друзьями о только что состоявшемся диковинном выступлении перед одноклассниками “неправильного” ветерана войны, который неожиданно признался, что белорусская “партизанка” была совсем не той плакатно-героической, коммунистически-идейной, а другой: “У нас не было освободительной войны. Утром мы воевали против полицаев, а вечером — против красных”. Он вот так обратился к школьникам: “Я вам, ребята, так скажу: если, не дай Бог, когда-нибудь начнется война, вы сядьте и хорошенько подумайте, за кого вам воевать и воевать ли вообще”. А время-то уже, между прочим, было не перестроечное, а президентско-идеологическое. Не в моде были такие речи. Вот шестнадцатилетние школьники и ошалели.

И как это бывает, разговор перескочил на белорусский язык. А все потому, что Франциск вставлял белорусские выражения и кто-то из одноклассников призвал его говорить “нормально”. Циск не обижается на друзей. Он пытается объяснить им: “Да потому что он (белорусский язык. — **С.Б.**) мне тупо нравится! Потому что я хочу отличаться чем-то от других”. Вообще Франциска не так-то легко сбить, он парень и начитанный, и наслышанный: знает про сталинские репрессии, сгубившие белорусскую интеллигенцию, про униженное положение белорусского языка. Но это знание в нем еще неокрепшее, еще подверженное сомнениям, еще нуждающееся в аргументации.

Эти аргументы выставляет ему сама жизнь. В тот день, когда его исключили из лицея, Франциск идет на встречу со своей девушкой, уговорились встретиться на станции метро “Немига” и пойти на гала-концерт, назначенный возле Дворца спорта. Слава Богу, Настя опаздывает, а вот Франциск, спасаясь от дождя, попадает в минскую “Ходынку” — жуткую давку в подземном переходе. Десять лет он проводит в коме в минской клинике. Врачи считают его “трупом”, “овощем”. И только бабушка, вырастившая, воспитавшая его, старая минчанка, в которой видна истинная порода — увы, уходящей, исчезающей благородной белорусской интеллигенции, — верит, что внук выкарабкается. Она читает ему книги, ставит любимые музыкальные записи, она разговаривает с ним. Образ бабушки — несомненная удача автора романа. Наверное, только автобиографизм, которым, впрочем, пронизан весь роман, мог родить такой прекрасный в своей одновременно и мужественности, и человечности, и доброте образ уже уходящей нашей интеллигенции, той, что помнит о своих корнях и стремится передать память о них внукам. Белорусское во Франциске, как и имя его, это от бабушки.




Но бабушка не вечна. Она умирает, и в день ее смерти происходит чудо, которое должно было произойти: Франциск открывает глаза, он выходит из комы. Возвращение Франциска в жизнь спустя десять лет — это продолжение драмы ищущего себя, желающего обрести свою национальную идентичность молодого человека. Воскресший Франциск путает языки, белорусский мешается у него с русским. Но что горше всего — жизнь за десять лет стала страшнее, не сбылись надежды на новую, свободную Беларусь. Взрывы в парке и в метро жутким эхом отдаются в смятенной душе Франциска.

И вот последняя надежда. Франциск вместе с тысячами таких же верящих и надеющихся участвует в марше в центре Минска вечером 19 декабря 2010 года. Как радостно бьется его сердце, как счастлив он быть среди людей с такими добрыми, хорошими, счастливыми лицами. Вот как нас много, мы сможем, мы добьемся...

Трагедия 19 декабря сломала Франциска. Он буквально задыхается, не может жить в этой жуткой атмосфере. На последних страницах романа мы застаем его играющим на виолончели на улице германского портового города.

“Бывший сын” — за этим не только утрата родителей (с этим Франциск свыкся еще в детстве), понятие “бывшего сына” разрастается до метаметафоры — здесь не внутренняя, а вполне космическая драма молодого человека, страстно желавшего быть белорусом, жить на своей родине и утратившего и себя и свои надежды. Не знаю, можно ли говорить о драме поколения, которое представляет герой романа Саши Филипенко, поскольку не владею статистикой об уехавших, эмигрировавших. А ведь еще не сбросишь со счетов ушедших во внутреннюю эмиграцию... Но из разговоров с молодыми только и слышишь — многие хотят уехать. Не видят здесь перспективы для нормальной жизни, в которой можно себя чувствовать белорусом и гражданином...

Меня не удивило, когда я узнал, что автору романа Саше Филипенко еще нет тридцати лет. Все дышит в этой прозе молодой рефлексией. Но вместе с тем как далеко это от исповедальных повестей времен Аксенова и Гладилина. И дело не только в иной эпохе, хотя и в ней тоже. Проза Саши Филипенко несет в себе те межжанровые черты, которые характерны для нашего разбитого вдребезги времени и самосознания. Здесь ранящие память картины милого и уже ставшего чужим Минска перемежаются со спорами персонажей, явно перешедшими со страниц газет и интернет-форумов, здесь страстные внутренние монологи героев абсолютно естественно прерывают вроде бы отстраненную нить авторского хроникального нарратива. Я не думаю, что эта естественная в данном случае многослойность повествования от опытности. Откуда ей взяться у двадцативосьмилетнего автора?

Эта проза просто вырвалась вот таким комком, куском, как крик, как отчаяние “бывшего сына”. Но то, что крик этот, отчаяние это поведаны так буднично (за исключением, может быть, чересчур литературных страниц, на которых описываются ужасы Немиги), составляет несомненное достоинство романа. Вот она, наша белорусская се ля ви...

Нельзя не сказать о том, что вполне самостоятельным героем является в романе Филипенко и сам Минск. Это и родная среда, но все больше превращающаяся в “чудище огромно, обло, стозевно и лайяй”. Кстати, жутковатый феномен Минска притягивает к себе писательское внимание в последние годы. Тут, конечно, прежде всего вспоминается “Паранойя” Виктора Мартиновича. Восторги и проклятия перемежаются с поисками живой души в этом сфагнуме — безнадежном белом болоте.

И два слова об авторе “Бывшего сына”. Поиск в интернете подсказал, что Саша Филипенко, этот молодой белорус и минчанин, ныне успешный московский тележурналист (работал на канале “Дождь”). Кажется, в 2009 г. он был финалистом конкурса молодых литераторов, проводившегося Белорусским ПЕН-центром. Не знаю, что было представлено на том конкурсе, но “Бывший сын” — это серьезная заявка. Впрочем, даже если автор и не превзойдет себя в будущем, книга эта, несомненно, останется выразительным знаком времени.

**Саша Филипенко. Бывший сын. Роман. М., Время, 2013.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!



## *У Купалаўскім зноў «Вяселле»*

*Пасля двухгадовага перапынку ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы 5 і 6 лістапада пакажуць “Вяселле”. Паказ 6 лістапада будзе прымеркаваны да юбілею народнай артысткі Беларусі Зінаіды Зубковай, якая выконвае ролю нявесты.*

За гэты час беларуска-расійскі спектакль, пастаўлены расійскім рэжысёрам Уладзімірам Панковым, убачылі гледачы Францыі, Іспаніі, Грузіі, Азербайджана, Румыніі, Расіі і Украіны. Толькі за апошні год унікальная саўндрама, сінтэз драмы і мюзікла, на працягу двух месяцаў гралася на буйнейшых французскіх тэатральных пляцоўках, брала ўдзел у IV Тбіліскім міжнародным тэатральным фестывалі, Міжнародным тэатральным фестывалі імя А.Чэхава ў Маскве, Міжнародным тэатральным фестывалі ў Сібіу.

У пастаноўцы занята большая частка купалаўскай трупы — народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў, народныя артысты Беларусі Генадзь Гарбук, Мікалай Кірычэнка, Зінаіда Зубкова, Арнольд Памазан, артысты Святлана Анікей, Святлана Зелянкоўская, Міхаіл Зуй, Аляксандр Малчанаў, Ганна Хітрык і іншыя.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## *Мова з вушацкім прысмакам*

*Пабачыла свет новая кніга Рыгора Барадуліна «Вушацкі словазбор»*

Гэтае выданне стала 47-м выпускам серыі “Кнігарня пісьменніка” Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Прадмову да кнігі напісаў Уладзімір Някляеў, фрагменты з яе публікаваліся ў часопісе “Дзеяслоў” №65. Укладальнікам выдання стала Наталля Давыдзенка, рэцэнзентам — Кастусь Цвірка.

*“Вушацкі словазбор” — спроба сабраць за адным бяседным сталом хоць крышачку неперазыдзенага шматгалосся роднае мне зямлі, шматгалосся, якое, на жаль, пачынае глухнуць”,* — піша Рыгор Іванавіч ва ўступным слове да кнігі, прысвечанай “Светлае памяці мамы Куліны”.

Нездарма на вокладцы змешчана фота роднай хаты дзядзькі Рыгора — народны паэт склаў не проста слоўнік адметнай лексікі Вушаччыны, ён імкнуўся перадаць “паганскія карані і біблейскае неба”, “чысціню бачання свету”, галасы “мамы Куліны, крэўных і блізкіх”.

Гэтая кніга, апублікаваная выдавецтвам “Кнігазбор”, узбагаціць любую бібліятэку і будзе даспадобы не толькі спецыялістам-мовазнаўцам — дзякуючы таму, што гэта навукова-папулярнае выданне, у якім — жывая памяць народа, уважліва захаваная і перададзеная Рыгорам Барадуліным.

ШОУ-БІЗНЕС

## *Час ехаць на «Еўрабачанне»?*

*Абвешчаны прыём заявак для ўдзелу ў адборы на конкурс*

У тых, хто марыць скарыць міжнародную сцэну буйнейшага еўрапейскага конкурсу песні, ёсць месяц на тое, каб падзяліцца сваім жаданнем з Белтэлерадыёкампаніяй.

Умовы адбору засталіся нязменнымі: у ім могуць прыняць удзел беларускія выканаўцы і аўтары, якія дасягнулі 16 гадоў. Вось і ўсе ўмовы для ўдзельнікаў, а вось з песнямі ўсё складаней. Музыка і тэкст павінны быць свежымі, да конкурса іх нельга распаўсюджваць праз інтэрнэт, на любых носьбітах праз продаж ці іншым спосабам. Ні ў якім выпадку песня не павінна гучаць на радыё і тэлебачанні. Максімальная працягласць песні — тры хвіліны.

На ўсе зборы ў жадаючых паехаць на “Еўрабачанне” ёсць толькі месяц. Прыём заявак завершыцца 24 лістапада. Нацыянальны адбор будзе праходзіць у два этапы: праслухоўванне ўдзельнікаў і фінал. Лепшага адбяруць па выніках галасавання журы і гледачоў.

**ТЫМ ЧАСАМ**

### *Ёсць і тыя, хто супраць*

*Беларусы падпісваюць петыцыю з патрабаваннем забараніць трансляцыю “Еўрабачання-2014”.*

Каля 250 чалавек падпісалі электронную петыцыю супраць трансляцыі з-за ўдзелу ў конкурсе прадстаўніка Аўстрыі — трансвестыта **Канчыты Вурст**. Аўтары петыцыі сцвярджаюць, што 25-гадовы трансвестыт прапагандуе лад жыцця, які непрымальны для беларускага грамадства.

*“Папулярны міжнародны конкурс, які будуць глядзець нашы дзеці, з падачы еўрапейскіх лібералаў стаў рассаднікам садаміі! Беларусь — адна з нешматлікіх краін Еўропы, якая змагла захаваць нармальныя і здаровыя сямейныя каштоўнасці, заснаваныя на любові і ўзаемным дапаўненні паміж мужчынам і жанчынай! Таму мы заклікаем да байкоту “Еўрабачання-2014” і забароне трансляцыі конкурсу ў Беларусі!”* — гаворыцца ў заяве актывістаў.

Петыцыю накіравалі да прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашенкі, які ўжо неаднойчы выказваўся і наконт “Еўрабачання”, і наконт садаміі. На гэты раз ніякай рэакцыі ад улад не было.

**КУДЫ АДСЫЛАЦЬ?**

Адправіць заяўку для ўдзелу ў конкурсе з паметкай “Нацыянальны адборачны тур конкурсу песні “Еўрабачанне-2014” трэба па адрасе: 220807, г.Мінск, вул. Макаёнка, 9.

АЎКЦЫЁН

## *Пярсцёнак з Мінска прадалі за 108 тысяч долараў*

*Таргі адбыліся ў Бостане, іх прымеркавалі да 50-х угодкаў з дня гібелі амерыканскага прэзідэнта Джона Кенэдзі.*

Выстаўлены на продаж быў заручальны залаты пярсцёнак Лі Харві Освальда. Як паведамляе РІА “Новости”, яшчэ летам 2013 года яго выставіла на аўкцыён удава Освальда Марына Портэр (Прусакова), “каб пазбавіцца ад успамінаў пра забойства 35-га прэзідэнта ЗША”. Да яго быў прыкладзены напісаны ад рукі ліст. Пярсцёнак прадалі на аўкцыёне за 108 тысяч долараў. Вядома, што яго набыў пакупнік з Тэхаса.



Амерыканец Лі Харві Освальд пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Марынай у 1961 годзе ў Мінску. Ён эміграваў у СССР і атрымаў дазвол на жыццё ў беларускай сталіцы, дзе працаваў на радыёзаводзе.



Пярсцёнак Освальд купіў у адной з ювелірных крам Мінска, незадоўга да таго, як разам з жонкай выехаў назад у ЗША. 22 лістапада 1963 года Лі Харві Освальд забіў прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі (праўда, існуе нямала версій наконт таго, што існавала змова спецслужбаў і ў Кенэдзі стралялі іншыя людзі) у горадзе Далас у штаце Тэхас. Праз два дні Освальда застрэлілі ў паліцэйскім пастарунку.

Марыне Портэр цяпер 72 гады. Вядома, што ў яе быў яшчэ адзін шлюб, у беларускі ёсць дзеці і ўнукі.

ПАСЛЯ ФІЛЬМА

# Святло, якое запаліў Валерый Мазынскі

*Не так даўно тэлеканал “Белсат” прэзэнтаваў новы дакументальны фільм “Глыбоцкая змова”, зняты рэжысёрам **Валерыем Мазынскім**. Сцэнарый стужкі напісаў **Уладзімір Халіп**. Дакументальная хроніка мяжуецца з успамінамі непасрэдных удзельнікаў далёкіх падзей, а мастацкая рэканструкцыя вяртае гледача ў пасляваенны 1945 год...*

На вызваленай ад нацыстаў Беларусі адбываецца новая беларуская трагедыя. Аддаюцца пад суд юнакі і дзяўчаты, віна якіх палягае толькі ў тым, што яны вучыліся падчас акупацыі. А пасля выгнання фашыстаў наважыліся выступіць супраць русіфікацыі, патрабавалі дзяржаўнасці беларускай мовы, марылі пра рэальны, а не намінальны суверэнітэт Беларусі. І (які жахлівы крымінал!) стварылі асветніцкую суполку на ўзор колішняга Таварыства філаматаў і філарэтаў.



Гісторыя пастаўска-глыбоцкага “Саюза беларускіх патрыётаў” страшная ў сваёй традыцыйнасці. Чарговы раз пад корань высякаліся парасткі беларушчыны, выпальвалася пад ёй глеба. Гэта адбывалася рэгулярна, ледзьве не кожнае пакаленне, у меншым ці большым маштабе. За стагоддзі прыгнёту беларусы сядзелі ў турмах розных дзяржаў. Беларускую мову, культуру і нацыянальную свядомасць бязлітасна праследавалі царскія апрычнікі, польская дэфензіва... Але ў расійскіх імперскіх чыноўнікаў і польскіх службоўцаў, прынамсі, было нейкае паняцце гонару, шляхетнасці. Заставалася нейкая павага да арыштантаў. Прысуды беларусам былі жорсткія. Аднак 25 гадоў катаргі ці смяротнае пакаранне за “культуру” не давалі.

“Саюз беларускіх патрыётаў” быў ідэйным нашчадкам Таварыства філаматаў-філарэтаў. Гэтая паралель неаднакроць прасочваецца ў фільме. Але літаральна праз некалькі год пасля разгрому царскімі ўладамі віленскага Таварыства ў непрыкметным мястэчку Крошын, што на Баранавіччыне, быў аддадзены ў салдаты сын мясцовага каваля. Хлопцу было прыкладна столькі ж гадоў, колькі і героям “Глыбоцкай змовы”. Ён нават не ствараў ніякіх суполак, нічога дужа не патрабаваў. Ён проста пісаў вершы. Па-беларуску. А яшчэ — асмеліўся падтрымаць сялянскі антыпрыгонніцкі бунт...

У цудоўным вершы Уладзіміра Караткевіча “Паўлюк Багрым” ёсць шчымлівабалючыя радкі, якія не забываюцца і праз доўгія гады пасля прачытання:

*А ў краіне так цяжка*
*(Асіны ад ганьбы палаюць),*
*І над ёй фанабэрыцца*
*П’яны, разбэшчаны гун...*

Гэтыя словы не маглі гучаць у свядомасці **Васіля Мядзельца, Янкі Рымдзёнка, Антона Фурса, Алесі Умпіровіч,** бо яшчэ не былі напісаны Караткевічам. Але думкі маладых патрыётаў былі, несумнеўна, ім сугучныя.

*На шлагбаумы мёртвыя*
*Пассякалі жывыя бярозы,*
*На шпіцрутэны гнуткія*
*Запаветныя вербы звялі.*

Мёртвыя бяздушныя шлагбаумы апусціліся перад жывой беларускай мовай, беларускай песняй, беларускай думкай. А шпіцрутэны — улюбёны сродак пакарання ў Расійскай імперыі — былі заменены на кулі бальшавіцкіх наганаў.

Спроба савецкіх спецслужбаў зрабіць з маладзёжнай асветніцкай суполкі тэрарыстычную арганізацыю, нягледзячы на ўсе намаганні правакатара, поспеху не мела. Судзіць юнакоў і дзяўчат, здаецца, не было за што. Яны не збіраліся рабіць нейкія дыверсіі ці некага (крый Божа!) забіваць. Яны не заклікалі да звяржэння савецкай улады. Але іх судзілі. За контррэвалюцыю і нацыяналізм. І трох юнакоў прысудзілі да... расстрэлу. Цудам **Валянцін Лагунёнак, Мікола Асіненка і Васіль Мядзелец** не былі расстраляны, бо ў СССР (якраз на момант вынясення прысуду) на кароткі час смяротная кара была забаронена. Расстрэл замяняўся на 25 год лагераў. Астатнія ўдзельнікі таксама атрымалі шматгадовыя тэрміны, і толькі смерць Сталіна выратавала іх ад знікнення ў ГУЛАГу.

Сёння цяжка меркаваць, якім вярнуўся з салдатчыны **Паўлюк Багрым**. Вядома, што вершаў ён болей не пісаў. Але затое, стаўшы, як і бацька, кавалём, выштукаваў для крошынскага касцёла знакамітую жырандолю... А вось якімі вярталіся з катаргі ўдзельнікі пастаўска-глыбоцкай “змовы”, мы ведаем. Яны засталіся адзінай суполкай, не здрадзілі ні сваім сябрам, ні сваім перакананням. Яны вярталіся дадому, хоць вяртацца не было куды. Радзіма сустрэла холадам, непрыхаванай непрыязнасцю і нават варожасцю на тварах людзей. Чаму ўсё настолькі змянілася за нейкае дзесяцігоддзе? Што сталася?

Пытанне вельмі складанае, яно вымагае асобнага ўзважанага вывучэння, але, думаецца, асноўную ролю тут адыгралі неадольны страх самому апынуцца на месцы выгнанцаў і, вядома ж, масіраваная прапаганда. Калі чалавеку штодня паўтараць нават зусім неверагодную рэч і пазбавіць іншых крыніц інфармацыі, ён, урэшце, пачне верыць. Удзельнікі Саюза беларускіх патрыётаў за доўгія гады перасталі быць блізкімі суседзямі, знаёмымі, аднавяскоўцамі, аднакурснікамі, а сталі “ворагамі народа”. Як жа! У нас проста так не саджаюць! Дыму без агню не бывае!

Яшчэ адзін жахлівы ўдар горкага лёсу... Былыя беларускія катаржнікі зноў кіруюцца ў месцы свайго зняволення. Ужо вольнымі працаўнікамі. Тут яны былі запатрабаваны, тут іх ведалі, тут іх не цураліся... І толькі на схіле жыцця некаторым пашчасціла вярнуцца ў Беларусь.

Гранічна шчырыя аповеды **Антона і Алесі Фурсаў, Льва і Марыі Бялевічаў, Яўгена Сідаровіча, Міколы Конана...** Сённяшнія пастаўскія школьнікі ў ролях маладых патрыётаў 1945—1946 гадоў... Ці змаглі яны, нашы цяперашнія юнакі і дзяўчаты, адчуць, глыбока асэнсаваць памкненні і лёс сваіх колішніх аднагодкаў, “перажыць” яго ў сваіх думках? Перажыць... Напэўна, не... Усё ж розныя эпохі, розныя пакаленні. Але вось судакрануцца юнымі сэрцамі — несумнеўна.

Нельга сказаць, што дзякуючы фільму **“Глыбоцкая змова”** з аналаў беларускай гісторыі знікла яшчэ адна “белая пляма”. Бо тая “пляма” мусіла знікнуць яшчэ ў 1997 годзе, калі выйшла ўкладзеная Германам Кірылавым кніжка ўспамінаў удзельнікаў Саюза беларускіх патрыётаў “Гарт”, паводле якой, уласна кажучы, і зняты фільм. Але дзякуючы якасна зробленай дакументальнай стужцы, мінуўшчына ажывае, а малавядомыя яе старонкі выносяцца на святло, трывала замацоўваюцца ў грамадскай памяці. І менавіта ў гэтым вялікі плён зробленай аўтарамі фільма працы. У тым, што сёння кожны з нас можа ўсвядоміць увесь трагізм лёсу беларускіх хлопцаў і дзяўчат, якія адважыліся кінуць выклік магутнай сістэме (можа, нават да канца не разумеючы наступстваў свайго ўчынку).

І сапраўдную гераічнасць іх лёсу.

**Зміцер КУЗМЕНКА.**

ПЕРЕД СПЕКТАКЛЕМ

# Гетеры и гладиаторы

## *Из-за «Спартака» Якобсон и Хачатурян когда-то дрались на Невском проспекте*

Завтра и послезавтра, 30 и 31 октября, на сцене Большого театра выступит знаменитая труппа Театра балета имени Леонида Якобсона из Санкт-Петербурга. Мы впервые увидим балет "Спартак", одну из лучших постановок хореографа-новатора. Сейчас якобсоновский "Спартак" считают революционным, хореографа Леонида Якобсона называют самобытным, чтят его память... Но при жизни мастера изысканно травили чиновники всех мастей, а звания народного артиста СССР Леонид Вениаминович так и не получил, хотя и добился создания собственной труппы, существующей отдельно от оперной. Театр "Хореографические миниатюры", созданный в 1966 году, стал уникальным балетным проектом. Но какой ценой платил за него балетмейстер?



### О, счастливчик: заклеймен, но на свободе

За свою первую постановку — балет "Шурале" в театре им.Кирова (ныне Мариинский театр) — Леонид Якобсон получил Сталинскую премию. А потом — статья-донос в "Правде", клеймо отщепенца и космополита. Это было начало 1950-х, разгул в стране официального антисемитизма. Якобсона выгнали из театра. Счастливчик. Ведь могли бы и сослать... Но партийный цинизм советских властей был изощренным: балетмейстер заклеймен, а "Шурале" по-прежнему стоит в афише театра!

Так прошло несколько лет. Умер Сталин. Сменилось и руководство Кировского театра. И Якобсону предлагают в Ленинграде новую постановку — "Спартак". По воспоминаниям его жены, Ирины Якобсон, и эта работа сопровождалась множеством конфликтов. Прежде всего композитор А.Хачатурян, к тому времени уже классик советской музыки, не разрешал сократить партитуру, написанную на довольно рыхлое либретто Н.Волкова. Якобсон переставлял музыкальные куски, стараясь придать произведению более стройную драматургию. Оба — и Хачатурян, и Якобсон — обладали "взрывным" темпераментом, объяснение между ними дошло до драки посреди Невского проспекта!

Конфликт у хореографа был и с артистами. Это сегодня все вспоминают: ах, как гениально решены сцены боя в виде движущихся античных "барельефов"! А "гадитанские девы", а дуэты на полупальцах! А тогда труппа, воспитанная на том, что настоящее искусство — это только классический танец, принимала новшества Якобсона в штыки. Хореографу приходилось лгать артистам, когда он ставил им "невыворотный" танец на полупальцах. "Все будет на пальцах, не волнуйтесь, — говорил он, — это мы пока ищем, пробуем".

Якобсон обладал удивительным даром: у него было чутье на актера, и он умел заставить их делать то, что было им задумано. В работе, правда, был неумолим и несдержан, так что слава о его дурном характере и о том, как тяжело с ним работать, сопровождала хореографа всю жизнь. Но после окончания работы ни один из жалобщиков больше не говорил о нем ни одного дурного слова: результат был великолепный, а это актеры тоже умеют ценить. Многие исполнители создали себе славу в балетах Якобсона.

### Бег по инстанциям: Якобсон спорил, объяснял, добивался

"Спартак" вышел в 1956 году и, по воспоминаниям современников, был одним из "счастливейших событий балетной жизни России". В академическом театре им.Кирова Якобсон поставил еще три спектакля, но они недолго продержались в репертуаре. Он понял, что ему с его авангардистским стилем плодотворно там работать не дадут, и начал добиваться разрешения создать свою собственную труппу. Через годы борьбы, хождения по инстанциям судьба улыбнулась хореографу — в 1966 году в Ленинграде открылся-таки театр "Хореографические миниатюры", где балетмейстер стал художественным руководителем. Якобсон был счастлив, он ликовал. Сколько у него было увлекательных замыслов! И он создал действительно необычный, яркий, якобсоновский репертуар. Его фантазия и работоспособность не имели предела. Но танцовщики с трудом воспринимали стиль и темп работы Якобсона. Ленконцерт, к которому принадлежал коллектив Якобсона, тоже ставил палки в колеса. Якобсон записал в своей тетради: "Я получил свой театр слишком поздно... Но я докажу им, что можно успеть..." Ему уже было под семьдесят.

Вся работа проходила в непрестанной борьбе с властями, вспоминает одна из поклонниц мастера Нина Аловерт. Якобсон спорил, объяснял, добивался. Вновь шли прогоны запрещенных спектаклей для партийного начальства, за ними следовали обсуждения, осуждения... Якобсон нервничал, срывался, кричал. Он не умел быть дипломатичным. Устав от безграмотных придирок, он накричал и выгнал из зала заведующую отделом культуры горкома... Кричал горкомовской комиссии на обсуждении: "Вам не место в искусстве! Вы ни черта в нем не понимаете!" В ответ на это театр сделали невыездным... Нельзя без содрогания и боли читать письмо Ирины Якобсон о последнем годе жизни супруга. "Что-то все время запрещали, Якобсон бегал по инстанциям. Сегодня ходил — не приняли. Завтра ходил — отказали. Потом не было пропуска в Смольный. Потом не было человека, который вам нужен. Это так унизительно!"

### Финал в приемной министра культуры СССР

Якобсону разрешили поехать в Италию, ставить в "Ла Скала" вместе с Любимовым спектакль, посвященный итальянской компартии. Из Италии Якобсон вернулся больной: у него обнаружили рак, который зрел уже много лет. Когда Фурцеву на посту министра культуры сменил Демичев, он почему-то отнесся к Якобсону с большей долей терпимости, чем остальные власти. Обещал, что никто теперь, кроме самого Демичева, не будет проверять работу Якобсона, т.е. оставил контроль над творчеством хореографа за собой. И хотя контроль чиновника над творчеством само по себе явление унизительное, Якобсон и этому радовался: все-таки удалось добиться включения в репертуар "Свадебного кортежа", много лет назад запрещенного властями... Якобсону становилось все хуже и хуже. Несмотря на это, он поехал в Москву на прием к Демичеву, чтобы обсудить планы театра. Ожидая приема, вдруг сказал жене: "Ну вот, теперь все..." И упал. Якобсона увезли в больницу, откуда он уже не вышел. Умер хореограф в 1975 году в Москве. Похоронен в Ленинграде.

"Это было страшное горе. Для всех. Плакали безумно. Мальчики, девочки... Слезы лились сами, — вспоминала его вдова. — Сказать слова соболезнования ко мне подошел много работавший в своей жизни с Леонидом Вениаминовичем художник Сулико Вирсаладзе: "Не надо плакать. Он умер, создав что-то новое. И я ему завидую. Я хорошо пишу, но я художник старого искусства. А Якобсон нового. Он — счастливый".

### Против течения

Созданный Леонидом Якобсоном в 1956 году балет "Спартак" возобновлялся в 1976-м, затем в 1985-м, когда спектакль шел в одноактной версии. В 2010 году "Спартак" был реконструирован в своем первозданном виде — таким, каким видел его сам хореограф. И каким в эти последние дни октября увидят его минчане.

В Москве восстановленный якобсоновский "Спартак" и сейчас принимается далеко не всеми — спектакль в российскую столицу не так давно привозил Мариинский театр. Критики писали, что теперь, спустя 55 лет со дня премьеры, ясно, что не все, кто упрекал автора за отсутствие танцев, были ретроградами. И не все, что танцуется босиком и с "завернутыми" внутрь коленями, становится шедевром на века. Критиковать Якобсона до сих пор сложно — много он натерпелся от советской власти: талантливому мастеру, создававшему превосходные балетные миниатюры, запрещали ставить, приписывали идеологическую неблагонадежность...

"Спартак" в момент создания был нужен. Он противостоял сталинскому железобетонному искусству, и без таких экспериментов советский балет задохнулся бы в однообразии. Но если тогда Якобсон что-то кому-то доказывал (и доказал!), то сегодня, считают многие, эстетика "Спартака" ломится в давно открытую дверь.

**Елена МОЛОЧКО.**

МАЗАІКА

## *БАТЭ можа датэрмінова стаць чэмпіёнам Беларусі*

*У нядзельным заключным матчы 28-га тура футбольнага чэмпіянату краіны сярод каманд першай шасцёркі Вышэйшай лігі барысаўскі БАТЭ прайграў у Гродне "Нёману" з лікам 0:1.*

Напярэдадні "Гомель" саступіў мінскаму "Дынама" — 1:4, а "Тарпеда-БелАЗ" з Жодзіна ўзяло верх над салігорскім "Шахцёрам" — 1:0.

Становішча каманд: БАТЭ — 60 ачкоў, "Шахцёр" — 52, "Дынама" (Мн) — 47, "Нёман" — 40, "Тарпеда-БелАЗ" — 39, "Гомель" — 37.

Нягледзячы на паражэнне, ужо ў наступным туры 3 лістапада барысаўчане афармяць чарговае чэмпіёнства, калі возьмуць тры ачкі ў матчы з "Шахцёрам", паведамляе БелаПАН.

У другой шасцёрцы "Нафтан" (Наваполацк) выйграў у "Мінска" — 2:1 і практычна пазбавіў "Славію" шанцаў пакінуць апошняе месца. 27 кастрычніка мазыране саступілі дома бабруйскай "Белшыне" — 0:1. У суботу "Днепр" (Магілёў) з буйным лікам перамог брэсцкае "Дынама" — 3:0.

Становішча каманд: "Белшына" — 44, "Днепр" — 33, "Мінск" — 32, "Дынама" (Бр) — 30, "Нафтан" — 30, "Славія" — 20.

## *Дзве «бронзы»*

*Два бронзавыя медалі заваявалі беларускія спартсмены на чэмпіянаце свету па цяжкай атлетыцы, які прайшоў з 16 па 27 кастрычніка ў польскім Вроцлаве.*

Узнагароды на рахунку Дзіны Сазанавец (вагавая катэгорыя да 69 кг) і Кацярыны Шкуратавай (звыш 75 кг).

У агульным медалёвым заліку Беларусь заняла 10-е месца. Напарадзе Кітай (6 залатых, 2 сярэбраныя, 2 бронзавыя ўзнагароды), Расія (5, 3, 2), КНДР (1, 5, 0), Узбекістан (1, 0, 1), Тайвань (1, 0, 0), Азербайджан, Казахстан (па 0, 1, 1), Балгарыя і Эквадор (па 0, 1, 0). Яшчэ пяць краін заваявалі па адным бронзавым медалі (В'етнам, Калумбія, Мексіка, Польшча і Тайланд). Усяго ўдзельнічалі 47 дзяржаў.

На ЧС у Польшчу з-за траўмы не паехаў алімпійскі чэмпіён 2008 года Андрэй Арамнаў, паведамляе БелаПАН.

СЛЫШАЛИ?

## Андрей МИХНЕВИЧ: *«Чтобы я стал профессиональным комментатором, нужно «потаскать штатив»*

*Известный толкатель ядра Андрей Михневич будет работать на телевидении спортивным комментатором. В эксклюзивном интервью "Народной Воле" он рассказал, почему решил сменить профиль и чем занимался после пожизненной дисквалификации.*

Телеканал "Беларусь 5" подвел итоги кастинга спортивных комментаторов.

Победителями стали прославленный легкоатлет Андрей Михневич, радиоведущий Дмитрий Лавриненко, студент Владислав Татур, журналистка Дарина Запольская и менеджер Анна Любенкова.

Телеканал "Беларусь 5" ставит своим приоритетом использование эксклюзивного спортивного контента. Он уже запущен и осуществляет вещание через кабельных операторов. Основной формат: прямые трансляции спортивных соревнований, новости спорта и спортивная аналитика.

Напомним, Андрей Михневич — заслуженный мастер спорта Республики Беларусь (2006), чемпион мира 2003 года, бронзовый призер Олимпийских игр 2008 года в Пекине.

В этом году спортсмен был дисквалифицирован пожизненно за повторное употребление запрещенных препаратов.

— Пока о моей будущей профессии телекомментатора можно рассуждать лишь теоретически, — рассказывает Андрей. — Я ведь прекрасно понимаю: чтобы стать профессиональным комментатором, нужно "потаскать штатив". Начать с азов, набраться опыта. Пока я кем-то стану, возможно, пройдет, немало времени. Так что говорить сегодня о том, что Андрей Михневич уже завтра будет комментировать, скажем, чемпионат мира по легкой атлетике, не стоит.



**— Но, в принципе, вам это интересно?**

— Конечно, если принимал участие в кастинге. Там мне дали ролик из каких-то соревнований, я прокомментировал. Сказали, что неплохо.

**— Будучи спортсменом, об этом тоже думали?**

— Нет, все получилось спонтанно. Увидел объявление, подумал: а почему бы не попробовать? Всякое начинание — оно интересно.

**— Если не секрет, чем занимались после дисквалификации?**

— Жил. Стройкой дома занимался, семьей, размышлял о жизни.

**— А о дисквалификации уже не думаете? Не было желания судиться, чтобы отстоять честь?**

— Думаю, бесполезно чего-то добиваться, потому что я уже начал понимать, к чему все клонится в спортивном мире с этими дисквалификациями спустя многие годы. Бороться с этим сложно и дорого. Если кто-то поставил цель убрать тебя, то это сделают. Остальное не так уж и интересно.

**Алесь СИВЫЙ.**

ШАШКІ

### Арганізатар, прапагандыст

Намеснік старшыні ГА "Беларуская федэрацыя шашак" Віталь Варушыла ўзначальвае Рэспубліканскую камісію па кампазіцыі. Пад яе кіраўніцтвам беларускія складальнікі сталі чэмпіёнамі свету: Анатоль Шабалін (Мінск) — у раздзеле "Задачы-100" і Пётр Шклудаў (Наваполацк) — у самым папулярным жанры "Камбінацыйныя праблемы-64", у якім таксама вызначаліся Аляксандр Кагоцька з Пінска (сярэбраны прызёр) і мінчанін Мікалай Грушэўскі (бронзавы). За высокія паказчыкі ў спаборніцтвах атрымалі дыпломы ФМЖД: Васіль Грабенка з Мінска — міжнароднага гросмайстра, Аляксандр Сапегін (Усполле Мсціслаўскага раёна), П.Шклудаў і А.Кагоцька — міжнародных майстроў.

Сам В.Варушыла таксама ўдзельнічае ў конкурсах рознага значэння і мае неблагі рэйтынг. Пазнаёмцеся з яго новай задумкай на 64-клетачнай дошцы:

**Белыя**: b6, d6, e7, f2 (4). **Чорныя**: a7, b2, b4, h2 (4). **Выйгрыш**.



Яшчэ аматары старадаўняй гульні ўдзячны майстру В.Варушылу за паведамленні ім па электроннай пошце аб выніках турніраў, відавочцам якіх ён бывае. Заслугоўвае ўвагі яго інфармацыя аб першынстве краіны па шашках-100 сярод мужчын і жанчын. У ім залатыя медалі заваявалі міжнародныя майстры Андрэй Толчыкаў (Гомель) і Вольга Садоўская (Мінск), сярэбраныя — Аляксандр Булатаў і Вольга Федаровіч, бронзавыя — Сяргей Насевіч і Ірына Пашкевіч (усе міжнародныя гросмайстры з Мінска). Месцы ў вышэйшай лізе на будучы год захавалі Ігар Міхальчанка, Андрэй Валюк, Святлана Гарбачэнка і Дар'я Федаровіч. Прыводзяцца цікавыя фрагменты з партый чэмпіёнаў:

1. **Белыя** (А.Толчыкаў):26,27,28,32,33,34,35,36,37,38,40,45,48,49(14).

**Чорныя** (А.Валюк):1,3,11,12,13,15,16,17,18,19,20,23, 24,25(14).

Далей было:31.36—31 24—29 32.33x24 19x39 33.28x8 39—44 34.40—34 44—50 35.32—28 50x22 36.26—21 17x26 37.8x28+.

2. **Белыя** (Д.Федаровіч): 22, 27, 35, 38, 40, 41, 44, 45 (8).

**Чорныя** (В.Садоўская): 8, 13, 16, 18, 19, 20, 25, 29 (8). 1...19—24!, і белыя вымушаны аддаць шашку, бо на 2. 44—39 падрыхтаваны ўдар 2... 13:19 3... 19:23 і 4... 25:21+.

### Рашаем разам

**"Міжнародныя гросмайстры"**: **№1** (Ю.Кірылаў—Я.Кандрачэнка) — 1...**cd2!** 2. e:c3 fe5 3. fg3 **ed4!** 4. c:e5 hg5 5. f:h6 h:d2 6. c:e3 d:d2x і **№4** (В.Грабенка) — K(239) 48 (32QRS) 30, 39x. L(28) 38, 1/12x. M(29) 39, 1/12x. N(38) 50 (43 T) 40, 48x. O(340) 45 (38) 50 (42) 40, 47x. P(40, 45) 33/39 (50) 33/25-39(45) 50 (23) 7, 45x. Q(23) 30 (293U) 8 (32) 27(40) 17 (28) 176/272 (45) 272/176, 50x. R(29—33) 38, 1/12x. S(28—33) 39, 1/12x. T(350) 45(42) 29, 47x. U(40) 35 (293) 8 (38) 3 (43 VW) 19, 48x. V(32) 19, 42x. W(33) 30 (42X) 19, 47x. X(29) 26x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

## *Новая зорка ўзыходзіць?*

*19-гадовая беларуская тэнісістка Аляксандра Сасновіч стала пераможцай турніру ў Францыі.*

Беларуска ўзнялася з 239-й на 165-ю пазіцыю ў новым рэйтынгу Жаночай тэніснай асацыяцыі пасля перамогі на турніры ІТФ у французскім Пуацье з прызавым фондам 100 тысяч долараў ЗША.

Сёлета Аляксандра выйграла два турніры ІТФ у Нетаніі (Ізраіль) (прызавы фонд па 10 тысяч долараў) і яшчэ адзін — у Таліне (25 тысяч долараў).

Напярэдадні спартсменка распавяла журналістам, як складана без грошай у тэнісе.

*"У бацькоў павінны быць нейкія сродкі,* — шчыра прызналася Саша goals.by. — *Вельмі цяжка зайграць у тэніс дзецям з бедных сем'яў ці рэгіёнаў. Атрымліваецца толькі ў адзінак. А без грошай не варта нават і нос паказваць. Элементарна добрая ракетка каштуе 150 долараў. Красоўкі — 100—150 долараў. На такім пакрыцці, як у Мінску, трэба пастаянна купляць новыя. А на турнір з'ездзіць? Гэта наогул вялізныя грошы! Сам удзел, пражыванне, харчаванне... Каб сур'ёзна зарабляць, трэба ўваходзіць у топ-100. А багацеі — у топ-10. Вось і атрымліваецца, што суперзоркамі становяцца адзінкі".*

КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі:** 3. Вялікі князь ВКЛ, яго прывілей абмежаваў уладу манарха — ён мог прымаць дзяржаўныя рашэнні са згоды Паноў-Рады. 10. Аўтар аздаблення паэмы Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра". 12. Беларускі пісьменнік, гісторык, у 2004 годзе атрымаў прэмію Барыса Кіта. 13. Вучоны Радзім Гарэцкі як грамадскі дзеяч, што займаўся рыхтаваннем з'ездаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". 14. Член магутнай карпарацыі, якую пабудавалі віцебскія мільянеры Аверкі разам з рыжскай гільдыяй гандляроў. 16. Зборнік сучаснага паэта з Веткаўшчыны Эдуарда Акуліна. 17. Аўтар верша "Ты, мой брат, каго зваць беларусам". 23. Ваяр войска Дамініка Радзівіла. 24. Кароль, пасля яго захопу Падляшша пачалася вайна ВКЛ з Мазовіяй. 26. Сельскагаспадарчы часопіс, які калісьці выдаваўся ў Вільні на беларускай мове. 29. Мастацтвазнаўца, дзякуючы ёй у пасляваенныя гады быў нанава створаны фонд Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. 30. Адсутнасць сродкаў для існавання, каб перасцерагчы ад гэтага сябе і хату нашы продкі сыпалі на парог асвечаны на Спаса мак. 31. Каса з доўгім палатном і высокім касільнам. 32. Вольнаадпушчаны селянін Віцебскай губерніі, на аснове яго апісанняў Расійскае геаграфічнае таварыства апублікавала працу "Быт беларускіх сялян". 33. Жыццё, якое прайшло; аб гэтым разважае паэт Аляксей Пысін у творы "Твае далоні". 35. Дачка багатага ўдаўца Чужапанка з камічнай оперы Яна Голанда "Чужое багацце нікому не служыць". 36. Вучань сярэдняй навучальнай установы, заснаванай Янушам Радзівілам у Слуцку ў 1617 годзе. 39. Заснавальнік аўтарытэтнага роду ў ВКЛ і Каралеўстве Польскім Аляксандр Алелька па роднасным сувязям да вялікага князя літоўскага Альгерда. 42. Барацьбіт за незалежнасць Беларусі, што пачаў вывешваць бел-чырвона-белыя сцягі ў небяспечных кропках. 43. Справа ўсяго жыцця беларускай гімнасткі Вольгі Корбут. 44. Мастак з маёнтка Каралінава, яго пэндзлю належыць карціна-абрас "Хрыстос і сірата". 50. Княства, якому ў XIV стагоддзі войскі ВКЛ пад камандаваннем віцебскага князя Альгерда нанеслі сакрушальнае паражэнне. 51. Беларускі пісьменнік, які на Харкаўшчыне працаваў начальнікам вучылішча для сляпых дзяцей, з 1911 года друкаваўся ў газеце "Наша Ніва". 52. Скульптурны шэдэўр Фарнага Гродзенскага касцёла. 53. Пеўчая птушка-заранка.

**Па вертыкалі:** 1. Паэт і музыка, аўтар тэкстаў больш як 300 беларускіх песень, нарадзіўся ў 1904 годзе. 4. Саюз, аб'яднанне асоб, арганізацый, дзяржаў. 5. Буйны музычны твор, яго жанр значна ўзбагаціў беларускі кампазітар Анатоль Багатыроў. 6. Па народнаму беларускаму звычаю, што ў людзей павінна быць новым для сустрэчы Раства Хрыстова? 7. Каляндарны час падзеі. 9. Часопіс — орган беларускай фракцыі "Народнай волі", пачаў выходзіць у 1884 годзе. 11. Партызан-герой нашай Айчыны, у 1944 годзе пасля разведкі трапіў у засаду, гранатай узарваў сябе і гітлераўцаў. 12. Прылада, ёй карысталіся Ягайла і Вітаўт для адлова дзікіх коней-тарпанаў у Белавежскай пушчы. 15. Кіраўнік франтовай тэатральнай брыгады купалаўцаў, здымаўся ў кінафільмах "Хто смяецца апошнім", "Палеская легенда". 18. Праяўленне магутнага духу народа ў вобразе гусляра з паэмы Янкі Купалы "Курган". 19. Маламажэйкаўская царква Раства Маці Божай у вёсцы Скрыбаўцы Гродзенскай вобласці, збудаваная 489 гадоў таму. 20. Сучасны манументаліст, жывапісец, стварыў галерэю партрэтаў ад С. Баха да М. Чуркіна, уключаючы беларускіх кампазітараў. 21. Яшчэ адна прафесія, якой валодаў знакаміты рускі статыстык-дэмакрат Зміцер Жураўскі, прадстаўнік беларускага роду. 22. Выдатны майстар беларускага тэатра, які лічыць сябе вучнем Аляксандра Ільінскага, карыфея коласаўскай сцэны. 25. Лёгкія, спецыяльна абсталяваныя для выезду сані. 27. Майстэрства тэатральнага танца, школу якога ў Расіі стварылі артысткі са Шклова Азарычы. 28. Дрэва, з яго на Беларусі рабілі барану, якой абганялі вёску ў час барацьбы з эпідэміямі. 37. Прыдзіркі, папрокі, абвінавачанні. 38. Вядомы беларускі мастак і педагог, сын прыгоннага, вучань і паслядоўнік А. Венецыянава, пісаў партрэты, аўтар інтэр'ера "Унутраны выгляд Марскога Нікольскага сабора. 40. Шкляная пасудзіна, што была ў какторы-зёлкавай лабараторыі Гродзенскай іезуіцкай аптэцы. 41. Прылада, якой па загаду імператара Мікалая І быў пакараны за рэвалюцыйную дзейнасць вучань Віленскай гімназіі Людвік Нарбут, у будучым ён стаў адным з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гадоў. 42. Археалагічная ўстанова , заснаваная ў Лагойску і Вільні графам Яўстахам Тышкевічам. 45. Апавядальны твор са складаным сюжэтам і шматлікімі героямі. 47. Папулярная ежа ў славян, якая займае самае важнае месца ў ліку ўсіх рытуальных абрадавых страў. 48. Горад, дзе 580 гадоў таму адбыўся з'езд магнатаў ВКЛ, на ім адбылося абмеркаванне магчымай канарацыі Вітаўта ў якасці караля Літвы.

**Па дугах:** 2. Узор са шкла рознага колеру, выкананы ў Мінскім Чырвоным касцёле мастаком са Случчыны Францішкам Бруздовічам. 8. Вядомы беларускі мастацтвазнаўца, ён засведчыў, што "Партрэт паўстанца 1863 года" — гэта партрэт-біяграфія Альфрэда Ромера. 34. Бацькоўская субота — працяг Асенін, на яе пякуць шмат бліноў, гатуюць разнастайныя стравы, каб памянуць памерлых сваякоў. 46. Асноўная схільнасць Міхала Казіміра Агінскага. 49. Вялікая музычная група выканаўцаў, яе арганізаваў і ўзначаліў харавы дырыжор Рыгор Шырма.

**Ала АДАМАЙЦІС.**

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 3. Аляксандр. 10. Кулік. 12. Арлоў. 13. Арганізатар. 14. Купец. 16. "Радно". 17. Гарун. 23. Улан. 24. Мазавецкі. 26. "Саха". 29. Аладава. 30. Нястача. 31. Літоўка. 32. Анімеле. 33. Мінулае. 35. Каса. 36. Гімназіст. 39. Унук. 42. Мірон. 43. Спорт. 44. Ромер. 50. Брандэнбург. 51. Лейка. 52. Алтар. 53. Малінаўка.

**Па вертыкалі:** 1. Русак. 4. Ліга. 5. Кантата. 6. Адзенне. 7. Дата. 9. "Гоман". 11. Казей. 12. Аркан. 15. Уладзімірскі. 18. Увасабленне. 19. "Мураванка". 20. Каралевіч. 21. Эканаміст. 22. Варанецкі. 25. Вазок. 27. Балет. 28. Асіна. 37. Нападкі. 38. Заранка. 40. Колба. 41. Розга. 42. Музей. 45. Раман. 47. Каша. 48. Луцк.

**Па дугах:** 2. Вітраж. 8. Дробаў. 34. Змітраўская. 46. Музыка. 49. Капэла.

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 28.10.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26470 экз. Заказ №4327.